# КРАЯЗНАЎЧАЯ ГАЗЕТА



4 (20)
САКАВІК
2002 года

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

■ *НЕ ЗГАСАЙЦЕ, СВЕЧКІ ПАМЯЦІ*

## ВЫДАТНЫ СЫН БЕЛАРУСІ

**Да 60-годдзя з дня нараджэння Міхася Ткачова**

10-га сакавіка 1942 года ў старажытным горадзе Мсціслаўлі нарадзіўся выдатны сын Беларусі, будучы лідэр нацыянальнай археалогіі і гісторыі, энцыклапедыст, педагог, грамадскі і палітычны дзеяч Міхась Аляксандравіч Ткачоў.

Лёс наканаваў яму 50 гадоў жыцця. Але зрабіў гэты чалавек не менш, чым многія навуковыя калектывы. Бескампрамісная гістарычная праўда, яе вяртанне беларускаму народу сталі той паходняй, якой ён асвятліў доўгачаканую хвалю адраджэння дзяржавы і нацыі, абаронцам якіх Міхась Ткачоў заставаўся да апошніх дзён жыцця.

Яго памяці прысвечаны цудоўныя артыкулы С.Шушкевіча (“Народная воля”, 1.03), Г. і А.Семянчукоў (“Биржа информации”, 7. 03), пасяджэнні знаўцаў беларускай гісторыі і культуры ў Лідзе, Мінску (10.03) і Гродне (14.03).



Гродзенскія краязнаўцы назвалі Міхася Аляксандравіча ў ліку выдатнейшых асобаў ХХ-га стагоддзя і лепшых навукоўцаў Прынёманскага краю (гл.”КГ” № 4 за 2001 г.). Паклонімся яго памяці і пагодзімся, што ён “наблізіў нас да сапраўднай Беларусі” (С.Шушкевіч).

## ЯГО ЛЁС ЗНІТАВАНЫ З ГРОДНА

Лёс доктара гістарычных навук Міхася Ткачова быў цесна знітаваны з Гродна (з 1978 па 1989 г.). Працаваў старшым выкладчыкам, дацэнтам, в.а. загадчыка кафедры гісторыі БССР, прафесарам кафедры гісторыі СССР Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы. Быў сябрам прэзідыума Беларускага фонда культуры і рады Беларускага краязнаўчага таварыства. Пэўны час (1986-1989) узначальваў гісторыка-культурны клуб “Паходня”.

У маі 1989 года балатаваўся ў Савет Саюза СССР. Па большасці галасоў прайшоў у другі тур. Аднак прайграў прадстаўніку абкама КПБ.

**(Матэрыялы пра жыццё і дзейнасць М.А.Ткачова чытайце на 4-й – 6-й стар.)**

■ *ЗАЗІРНЕМ У КАЛЯНДАР*

## БЫЎ ПАЛІТЫКАМ І АСВЕТНІКАМ

Споўнілася 190 гадоў з дня смерці Яўхіма Ігнацы Юзэфа Літавора Храптовіча (4.1.1729 – 4.3.1812).

Ён закончыў Віленскую акадэмію. Удала складвалася палітычная кар’ера: маршалак Галоўнага Трыбунала ВКЛ (1765), дыпламат у Парыжы і Вене. Член Адукацыйнай камісіі, кіраўнік дэпартамента адукацыі і школ Вялікага княства Літоўскага. З 1773 года – падканцлер, з 1791 – міністр замежных спраў, з 1793 – канцлер ВКЛ. У канцы 18-га стагоддзя заснаваў у Варшаве “Таварыства сяброў навукі”. Пасля 3-га раздзелу Рэчы Паспалітай адышоў ад палітычнай дзейнасці.

У маёнтку Шчорсы (Навагрудчына) Яўхім Храптовіч пабудаваў палацавы комплекс, аднавіў уніяцкую царкву. Заснаваная ім бібліятэка дасягала 20 тысяч тамоў. Былі вельмі рэдкія выданні і архіўныя матэрыялы, напрыклад, пісьмы Багдана Хмяльніцкага, рэрытэты з найбольш вядомых збораў і рукапісаў Заходняй Еўропы – кардынала Джузепэ Імперыямі з Рыма…

Кнігамі Яўхіма Храптовіча карысталіся літаратары Адам Міцкевіч, Юзэф Крашэўскі.



**На здымку: будынак былой бібліятэкі Я.Храптовіча**

**■ УЛАСНАЕ МЕРКАВАННЕ**

# ГІСТОРЫЯ – НЕ РАЗМЕННАЯ МАНЕТА

**Асноўныя напрамкі навуковых інтарэсаў доктара гістарычных навук Алеся Краўцэвіча – матэрыяльная культура гарадоў, мястэчак, замкаў Беларускага Панямоння (14 – 17 ст.), ранняя гісторыя Вялікага княства Літоўскага, археалогія. Ён стажыраваўся ў Кракаўскім універсітэце. Друкуецца з 1982 г. Выдаў добры дзесятак кніг. Цяпер узначальвае выканкам Беларускага гістарычнага таварыства.**

**— Ці маюць рацыю тыя, хто сцвярджае, што ў тлумачэнні гістарычных падзей здавён пануе суб'ектывізм. Старажытныя летапісцы, ствральнікі хронік, пісары ўсіх часоў і народаў, пазней гісторыкі жылі пры дварах князёў-магнатаў. Людзі слабыя, а жыць хочацца добра…**

— Таму паказвалі факты, улічваючы інтарэсы свайго ўладара, краю, дзяржавы? Інтэрпрэтацыя была заўсёды. У гэтым сэнсе пра аб'ектыўнасць гаварыць не трэба. На "заказ" працуюць многія гісторыкі і цяпер. Каментаваць падзею мінуўшчыны, выкрысталізаваную стагоддзямі і прызнаную навуковай грамадскасцю — адно, і зусім іншае перапісваць гістарычны факт на свой капыл. Але гэта зрабіць не так проста. Сапраўднасць падзеі можна ўстанавіць шляхам параўнання розных крыніц, у якіх гэтая падзея ўзгадваецца. Ёсць іншыя пэўныя падыходы, правілы і прыёмы гістарычнага даследавання. Разам з выпрацаванай метадалогіяй яны дазваляюць трымацца рамак навуковасці. Ніхто не адмаўляе праўдзівасці Галіцка-Валынскага летапісу канца 13-га стагоддзя. Тыя ж самыя факты пацвярджаюцца ў Лівонскай хроніцы.

**— Гісторыя любой краіны жывіць нацыянальныя інтарэсы дзяржавы ва ўсе часы. Палітыкі заўсёды імкнуцца выкарыстаць факты мінулага для дасягнення ўласных мэт. Беларусам таксама ёсць чым ганарыцца. Аднак існуюць розныя ацэнкі, напрыклад, бітвы пад Оршай на рацэ Крапіўне 8-га верасня 1514 года…**

— Факт такі: 30-тысячнае войска гетмана ВКЛ Канстанціна Астрожскага разграміла 80-тысячную маскоўскую раць. Тая знакамітая бітва адлюстравана ў падручніках па вайсковаму майстэрству. Патрыёт-беларус засведчыць, што паход захопнікаў быў спынены, стрымана відавочная экспансія ўсходняга суседа, выратавана жыццё тысяч простых жыхароў, не былі зруйнаваны паселішчы і вёскі. Перамога прадэманстравала свету вольналюбчы характар ліцвіна-беларуса і тое, што народ меншай па колькасці нацыі можа адстаяць свае інтарэсы ў ваенным сутыкненні з магутным ворагам.

Ваяўнічы сусед-расеец, тлумачачы гэты факт, спашлецца на выпадковасць і адзінкавасць свайго паражэння. І абавязкова дадасць, што гэта маленькі непрыемны факцік у шэрагу далейшых гучных перамог Масквы над Вільняй і Варшавай.

**— Афіцыйная Беларусь ніяк не ўзгадвае тае бітвы. Робіць выгляд, што не мае да яе дачынення. Маўляў, тады была нейкая дзяржава Вялікае княства Літоўскае, і пры чым тут Беларусь. Ці не пагэтаму выдатныя асобы нашай зямлі складаюць славу Расіі, Польшчы, Літвы, Украіны і не запатрабаваны на Радзіме?**

— Гэта так. Але палітычная неабходнасць часцяком патрабуе знайсці чалавека, чые распрацоўкі прыдатныя для рашэння надзённых праблем. Цяпер прапагануецца ідэя адзінай дзяржавы Беларусь-Расія. Таму на Гродзеншчыне шырока "раскручаны" Міхаіл Каяловіч, дзякуючы гісторыку Валерыю Чарапіцы. Каяловіч быў перакананым прыхільнікам тэорыі "западноруссизма". Ён бачыў нашу будучыню толькі ў складзе Расіі. Незалежнасць і самастойнасць Беларусі такім чынам нівеліруецца, адсоўваецца на задні план. Пазіцыя гэтага чалавека зразумелая. Але не трэба яго асабістае перакананне навязваць іншым. Тым больш сцвярджаць, што бацька Каяловіча праваслаўны, хаця насамрэч ён быў уніяцкім вернікам.

**— Тут самы час запытаць: ці павінен гісторык быць высока маральным чалавекам, этычна выхаваным, справядлівым у ацэнках?**

— Гэтыя катэгорыі вечныя. Справа ў навукоўцах. Гісторыкі падзяліліся – факт. Многія за апошняе дзесяцігоддзе сталі менавіта беларускімі гісторыкамі. Частка старэйшага пакалення былі і ёсць гісторыкамі-прапагандыстамі, працуюць "пад заказ". Што патрабуе ўлада, тое яны і выконваюць. Трэба святкаваць 200-годдзе Гродзенскай губерні — рыхтуюць даклады і паведамленні. Іх не турбуе, што адзначаць дату закабалення сваіх продкаў могуць толькі людзі з душой рабоў. Гэта паказчык амаральнасці асобы. Невыпадкова, што за тры апошнія гады чацвёра гісторыкаў, маладых дактароў навук, пакінулі працу ў ГрДУ імя Янкі Купалы. Яны не здолелі працаваць у атмасферы прыстасаванства і гандлю прынцыпамі.

**— Неўзабаве ў гарвыканаме будзе адкрыта партрэтная галерэя людзей, якія пакінулі значны след у гісторыі Гродна і Гродзеншчыны. Яны заслужылі памяць людскую…**

— Тут трэба альбо ствараць партрэтную галерэю, пачынаючы з Давыда Гарадзенскага і заканчваючы апошнім каралём Рэчы Паспалітай Станіславам Панятоўскім, альбо пачынаць з першага расейскага губернатара, прысланага ў наш край пасля гвалтоўнага далучэння зямель ВКЛ да Расійскай імперыі. Ва ўсякім разе, да 1795 года праводзілася стваральная палітыка, а пасля інкарпарацыі Вялікага княства Літоўскага – разбуральная. Як можна змясціць у адным шэрагу, хай нават партрэтным, людзей зусім розных палітычных сістэм? На цяперашні час, калі беларусам актыўна навязваюцца словы "губерня", "губернатар", афіцыйна вернутыя ў шырокі ўжытак у Расіі, думаю, лагічна было б мець у гарвыканкаме малюнкі толькі былых губернатараў. Між тым, у Крамлі няма партрэтаў татара-мангольскіх ханаў сярод валадароў Рускага княства, хаця Масква доўгія стагоддзі плаціла даніну ваяўнічым наезнікам. Краіна, якая паважае сябе і сваю гісторыю, ніколі не будзе ўслаўляць заваёўнікаў…

**Гутарыў Антон Лабовіч**

■ КРАЯЗНАЎСТВА: ПРАБЛЕМЫ І НАБЫТКІ

# НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ ЁСЦЬ ЧАМУ ПАВУЧЫЦЦА!

*5 — 6-га сакавіка ў гарадскім пасёлку Радунь Воранаўскага раёна адбыўся рэспубліканскі семінар кіраўнікоў музеяў навучальна-выхаваўчых устаноў на тэму "Музей як фактар духоўнага і патрыятычнага выхавання навучэнцаў"*

Кіраваў работай семінара загадчык аддзела адукацыі Воранаўскага райвыканкама **Мечыслаў Уляшка**. Ён распавёў прысутным пра змест і формы выхаваўчай дзейнасці музеяў раёна. Намеснік старшыні райвыканкама **Галіна Турчынская** інфармавала ўдзельнікаў семінара аб раёне наогул.

Дырэктар рэспубліканскага цэнтра турызму і краязнаўства навучэнскай моладзі **С. Мітраховіч** раскрыў тэму "Краязнаўчая дзейнасць і школьныя музеі рэспублікі на сучасным этапе". Загадчык аддзела краязнаўства рэспубліканскага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф.Скарыны **Уладзімір Сергіеня** акрэсліў перспектывы школьнага краязнаўства. Намеснік старшыні Гродзенскага абласнога таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры **Дзмітрый Аляшкевіч** падзяліўся практыкай работы па распаўсюджванню ведаў і звестак аб гістарычнай спадчыне Гродзеншчыны. Навуковы супрацоўнік метадычнага аддзела Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея **Вольга Цімошына** прапанавала да ўвагі тэму "Формы ўзаемадзеяння дзяржаўных і школьных музеяў Гродзеншчыны па духоўнаму і патрыятычнаму выхаванню навучэнскай моладзі". Інфармацыю "Практыка стварэння і асветніцкая дзейнасць нетрадыцыйных музеяў" зрабіла метадыст рэспубліканскага цэнтра турызму і краязнаўства навучэнскай моладзі **Ларыса Пісарчык**.

Удзельнікі семінара азнаёміліся з экспазіцыяй музея і практыкай работы Пеляскай СШ з літоўскай мовай навучання па захаванню культурнай спадчыны нацыянальных меншасцей рэгіёна. Тлумачэнні даваў дырэктар школы **Альфонсас Швельніс**.

Госці таксама пабылі ў Народным гісторыка-краязнаўчым музеі Радунскай СШ № 1. Кіраўнік музея **Іван Фясенка** падзяліўся практычным досведам выхаваўчай работы і культурна-асветніцкай дзейнасці.

Удзельнікі семінара зрабілі аўтобусную экскурсію па гістарычных месцах г.п.Радуні, прысутнічалі на мерапрыемстве абласнога краязнаўчага праекта "Галасы гісторыі", які праводзіцца ў рамках Экспедыцыі навучэнцаў "Наш край".

**Ул. інф.**

---

# БЕЛАВЕЖА – КРАЙ БЕЗ МЕЖАЎ

*9-га сакавіка ў Гродне ў памяшканні грамадскага аб'яднання "Трэці сектар" адбылася сустрэча эколагаў, гісторыкаў, краязнаўцаў, літаратараў і журналістаў, прысвечаная праблемам захавання Белавежскай пушчы.*

Дзякуючы таму, што былі запрошаны людзі розных спецыяльнасцей, з рознымі поглядамі і падыходамі, праблемы Белавежы абмеркаваны вельмі шырока. Ініцыятар сустрэчы – прадстаўнік Беларускага філіяла грамадскай арганізацыі "Ахова птушак Беларусі" **В.Фанчук** здолеў стварыць атмасферу "мазгавога штурму", калі кожны прысутны выказвае не толькі свае думкі пра захаванне пушчы, але і вылучае канкрэтныя прапановы і напрамкі дзейнасці.

Эколаг і заолаг **В.Бахараў**, які сам працаваў у Белавежскім запаведніку, абгрунтаваў неабходнасць стварэння нацыянальнага парку на тэрыторыі Белавежы, выказаўся пра хутчэйшую забарону прамысловай нарыхтоўкі драўніны, увогуле гаспадарчай дзейнасці ў пушчы.

Краязнаўцы **В.Швед, А.Госцеў, С.Кузняцоў, В.Руселік, В.Руднік** і іншыя падкрэслілі, што Белавежская пушча – гэта не толькі лясны масіў з непаўторнай флорай і фаунай, але і са сваім насельніцтвам, багатай гісторыяй, своеасаблівым укладам жыцця. І ўсё гэта патрабуе абароны. Этнографы і філолагі прапанавалі правесці спецыяльныя экспедыцыі па вывучэнні фальклору ў наваколлі Белавежы.

Такі комплексны падыход мае асаблівае значэнне, бо беларусы заўсёды жылі ў шчыльнай знітаванасці з лесам, які ратаваў ад ворагаў, і паіў, і карміў. Таму, пэўна, адным з вельмі істотных наступстваў Чарнобыльскай катастрофы з'яўляецца разбурэнне менавіта гэтай повязі чалавека з лесам. Тым больш ўвагу трэба звярнуць на Белавежскую пушчу як прыродны асяродак, на захаванне ўмоў пражывання людзей, вывучэнне гісторыі і культуры гэтага краю, яго этнаграфіі і фальклору.

Вельмі дакладна пра значэнне Белавежскага краю сказала ў сваім вершы "Уздымам сэрц нашых шуміць Белавежа..." Ларыса Геніюш:

Крывіч там стагоддзі загон свой старожа,
а звычаі, мова жывуць з году ў год...
Там Край, быццам казка старая, прыгожы,
удалы і верны краіне народ.

Калі для нас волі гарачай світаньне
Цудоўнаю бліснье над Краем зарой,
Ад Угры па Буг мы спаткаць яго ўстанем
Усёй дружнай, вялікай Крывіцкай сям'ёй.

**Ніна Кануннікава,**
**доктар біялагічных навук, супрацоўнік Інстытута біяхіміі НАН Беларусі**

# ВЫДАТНЫ СЫН БЕЛАРУСІ



**На здымку: МіхасьТкачоў і Валянцін Грыцкевіч на адкрыцці 1-х Браслаўскіх чытанняў (1989 г.)**

*Міхась Ткачоў:*

## “ПАКЛАЎШЫ РУКІ НА ПЛУГ, НЕ АЗІРАЙСЯ...”

**З заключнага слова на ўстаноўчым з’ездзе БСДГ**

Хочацца парадавацца разам з вамі: адбылася гістарычная з’ява – мы адрадзілі, а можна сказаць, стварылі нанова партыю сацыял-дэмакратыі. Партыю надзеі, партыю пакрыўджанага і абражанага, падманутага народа, які нацярпеўся за 70 гадоў ад таталітарнай сістэмы...

Мы свядома становімся ў шэрагі змагання за будучыню нашага народа. Мы ідзем туды не для таго, каб шукаць сабе нейкія партфелі і крэслы; мы свядома ідзем на тое, што нас будуць ганіць; мы ведаем, што ярлыкі для нас гатовы. Але мы будзем рабіць так, як гаворыць нам біблейская мудрасць – паклаўшы рукі на плуг, не азірайся...

Дык давайце ж падымем дзірван нашай няшчаснай гісторыі, узаром гэтую самую глебу, каб прараслі на ёй залатыя зярняты нашай надзеі, нашай будучыні. І няхай нам у гэтай сяўбе спрыяе і наша прырода, і наш народ, і ўсе сілы – нябесныя і зямныя!

**(“ЛіМ”, 8 сакавіка 1991 г.)**

## ВЕЧАРЫНА ПАМЯЦІ ВУЧОНАГА

10 сакавіка доктару гістарычных навук, прафесару Міхасю Ткачову споўнілася 60 гадоў. Памяці гэтага славутага вучонага было прысвечана чарговае пасяджэнне Гродзенскага гарадскога гісторыка-культурнага грамадскага аб’яднання “Паходня”.

Міхась Аляксандравіч стаў лідэрам “Паходні” з першых дзён яе ўтварэння. Упершыню быў запрошаны сюды разам з пісьменнікам Кастусём Тарасавым. Сустрэча была настолькі цікавай, што зацягнулася да глыбокай ночы.

— Крыху пазней ужо нельга было ўявіць работу клуба без удзелу шаноўнага прафесара, — прыгадаў адзін з арганізатараў “Паходні”, яе цяперашні кіраўнік, навуковец Мікалай Таранда. – Сотні людзей памятаюць яго аповяды пра гістарычныя падзеі, нацыянальныя сімвалы Беларусі.

Прафесар ГрДУ імя Янкі Купалы, літаратуразнавец Аляксей Пяткевіч звярнуў увагу прысутных на стыль кніг “Замкі Беларусі”, “Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі 13-га – 18-га ст.”, “Вялікае мастацтва артылерыі”, “Старажытны Мсціслаў”, “Асветніцтва і педагагічная думка ў Беларусі”, “Беларуская кафля”. Гэтыя творы Міхася Ткачова, напісаныя самастойна ці ў сааўтарстве, сведчаць пра яго пісьменніцкі талент. Яскрава пацвярджаюць гэта таксама шматлікія нарысы па гісторыі беларускага мастацтва і археалогіі. Усяго пяру вучонага належыць звыш 400 навуковых публікацый.

— Міхась Аляксандравіч хацеў паспрабаваць сябе ў гістарычнай прозе. Я ўпэўнены, што з яго атрымаўся б добры пісьменнік. Ён меў уласнае трактаванне падзей, якія выкладаў цікава і захапляльна.

Аб сустрэчах з Міхасём Ткачовым прыгадалі грамадскія дзеячы Аляксандр Мілінкевіч, Алесь Астроўскі, Ніна Палуцкая, Уладзімір Хільмановіч, паэты Юры Гуменюк і Юры Пацюпа. Хор “Бацькаўшчына” выканаў шэраг песень. Прагучалі бардаўскія песні Віктара Шалкевіча, Валерыя Жамойціна і іншых.

**Сцяпан Ярашчук**



Старажытная Вільня заўсёды прыцягвала да сябе ўвагу беларускіх гісторыкаў. Міхасю Ткачову і Міколу Ермаловічу (здымак 1988 г.) ёсць аб чым падзяліцца думкамі на месцы пакарання смерцю нацыянальнага героя Беларусі Кастуся Каліноўскага. Імёны гэтых вучоных назаўсёды ўвайшлі ў залатую скарбніцу беларускай навукі і культуры.

# ЖЫЦЦЯПІС СЛАВУТАГА ВУЧОНАГА

**1942 – 10 сакавіка** ў Мсціславе ў сям'і настаўнікаў Алеся Рыгоравіча і Дамінікі Сямёнаўны Ткачовых нарадзіўся сын Міхась.

**1942** – у пачатку года пры абароне Ленінграда ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў загінуў бацька, які не даведаўся пра нараджэнне сына.

**1949** – вучоба ў СШ № 3 Мсціслава. З шостага класа працуе на цагельні. Дапамагае родным на вёсцы.

**1959** – паступленне на завочнае аддзяленне гістарычнага ф-та БДУ. У гэты час працуе палянводам у калгасе імя Варашылава, узначальвае камсамольскую арганізацыю.

**1960** – пераведзены на вочнае аддзяленне гістфака. Знаёмства з С.П.Шушкевічам (рэпрэсаваным вядомым беларускім паэтам), Я.Ф.Сушынскім (паплечнікам Янкі Купалы) і іншымі беларускімі патрыётамі.

**1964** – заканчэнне БДУ. Абарона дыпломнай працы, прысвечанай гісторыі Мсціслава. Згодна размеркаванню працуе настаўнікам гісторыі ў Жодзіне, завучам школы.

**1966** – узяў шлюб з Валянцінай Антонаўнай Пракопчык – біёлагам, навуковым супрацоўнікам Жодзінскага НДІ.

**1967** – нараджэнне сына Аляксандра.

**1968** – пачатак вучобы ў аспірантуры Інстытута гісторыі АН БССР па спецыяльнасці "Археалогія".

**1972** – абарона на беларускай мове кандыдацкай дысертацыі на тэму "Ваеннае дойлідства Беларусі 13 — 18-га ст. (па помніках паўночна-заходняй і паўднёва-заходняй Беларусі)", падрыхтаванай па выніках археалагічнага даследавання 13 абарончых збудаванняў. Публікацыя калектыўнай манаграфіі "Нарысы па археалогіі Беларусі, ч.2-я". Працуе навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі.

**1977** – нараджэнне дачкі Вольгі. Публікацыя манаграфіі "Замкі Беларусі". Маштабныя раскопы Верхняга замка ў Віцебску.

**1978** – публікацыя манаграфіі "Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі 13-18-га ст.". Шырыцца кола навукоўцаў, з якімі супрацоўнічае, — Л.В.Аляксееў, П.А.Рапапорт, А.М.Кірпічнікаў, В.В.Сядоў, Ф.Д.Гурэвіч, А.У.Аўсяннікаў, А.В.Цаўне...

Пераезд на працу ў Гродна. Абранне на пасаду дацэнта Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы.

**1983** – часова працуе загадчыкам кафедры гісторыі СССР ГрДУ імя Янкі Купалы (да 1985), дацэнтам гэтай кафедры.

**1985** – публікацыя калектыўнай манаграфіі "Асвета і педагагічная думка ў Беларусі".

**1986** – пачатак дзейнасці як кіраўніка гісторыка-культурнага клуба "Паходня" (Гродзенскі ГДК).

**1987** – публікацыя калектыўнай манаграфіі "Гісторыя беларускага мастацтва, т. 1-ы" (Т. 2-і – у 1988 г.). Абарона доктарскай дысертацыі на тэму "Арганізацыя абароны гарадоў Беларусі 14-18-га стст.". Другое выданне кнігі "Замкі Беларусі" (на рускай мове). Археалагічныя даследаванні сялібы Кастуся Каліноўскага ў Свіслацкім р-не.

**1988** – удзел у працы аргкамітэта па стварэнні Беларускага Народнага Фронту, абранне на 1-м з'ездзе ў Вільні намеснікам старшыні Сойма БНФ "Адраджэньне".

**1989** – публікацыя манаграфіі "Беларуская кафля". Вылучэнне жыхарамі Гродна кандыдатам у дэпутаты Савета Саюза Вярхоўнага Савета СССР. Абранне па конкурсу на пасаду загадчыка рэдакцыі гісторыі Беларусі выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя П.Броўкі". Атрыманне навуковага звання "Прафесар". Заснаванне навукова-краязнаўчых канферэнцый "Браслаўскія чытанні". Пачатак археалагічных даследаванняў Замкавай гары ў Браславе. Заснаванне гісторыка-краязнаўчых канферэнцый Гродзеншчыны "Наш радавод".

**1990** – кіраўніцтва аргкамітэтам па аднаўленні Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады. Вылучэнне жыхарамі Мінска кандыдатам у народныя дэпутаты Беларускай ССР. Удзел разам са шматлікай групай аматараў гісторыі і культуры Беларусі ў святкаванні 480-й гадавіны перамогі над крыжакамі пад Грунвальдам (Польшча). Абраны сябрам Рады Беларускага краязнаўчага таварыства, сябрам праўлення Беларускага фонда культуры.

**1991** – у сакавіку на ўстаноўчым з'ездзе БСДГ у Мінску абраны кіраўніком гэтай адроджанай партыі. Публікацыя манаграфіі "Замкі і людзі". Узнагароджанне медалём Францішка Скарыны. Нададзена званне Заслужанага дзеяча польскай культуры.

**1992** – 6-га красавіка прызначаны галоўным рэдактарам выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя". Публікацыя манаграфій "Старажытны Мсціслаў" (сааўтар А. Трусаў) і "Вялікае мастацтва артылерыі" (сааўтар А.Бельскі). Падрыхтоўка да друку першага тома "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі". Удзел у рабоце 19-га кангрэса Сацыялістычнага Інтэрнацыянала (верасень, Берлін). Бярэ водпуск і апошні раз едзе да маці ў Мсціслаў.

**1992 – 31 кастрычніка** памёр у Мінску ад цяжкага хранічнага захворвання нырак. Пахаваны на Маскоўскіх могілках.

**1993** – Выхад у свет 1-га тома "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" (падрыхтаваны ім 2-гі том выдадзены ў 1994 г.) і энцыклапедыі "Археалогія і нумізматыка Беларусі". Выданне ў Мінску гісторыка-археалагічнага зборніка "Памяці Міхася Ткачова (у 2-х тамах). Друк у Гродне зборніка "Наш радавод" (кніга 5-я, ч. 1-я) з артыкуламі-некралогамі пра М.Ткачова – В.Быкава, Д.Карава, Л.Карнілавай, А.Мілінкевіча.

**1994** – пасмяротнае выданне кнігі М.Ткачова "Паходня. Кніга публіцыстыкі". Адкрыццё мемарыяльных дошак, прысвечаных М.А.Ткачову, у Мсціславе і Гродне.

**2001** – Вылучэнне прафесара М.А.Ткачова краязнаўцамі Гродзеншчыны ў лік 10 выдатных асобаў паводле конкурсу "Чалавек 20-га стагоддзя".

**Андрэй Майсяёнак,**
**старшыня Гродзенскай краязнаўчай асацыяцыі;**
**Лявон Калядзінскі,**
**супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі;**
**Вікторыя Ткачова,**
**навуковы супрацоўнік**
**Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея.**

# ЧАЛАВЕК ШЧОДРАГА ТАЛЕНТУ

Ён нарадзіўся ў старажытным беларускім горадзе Мсціславе. Багатая гісторыя роднага горада, яе матэрыяльныя рэшткі ў выглядзе Замкавай гары, царквы Аляксандра Неўскага, касцёлаў і кляштараў кармелітаў і езуітаў моцна паўплывалі на станаўленне асобы будучага навукоўца. З другога боку, цяжкае і паўгалоднае паваеннае жыццё спрычыніліся да ранняга духоўнага і грамадзянскага сталення.

Лёсам было наканавана, каб ён стаў не кабінетным навукоўцам, а рамантыкам-археолагам. Міхась Ткачоў адным з першых, хто пачаў працаваць на сумежжы гісторыі і археалогіі, вывучаючы абарончае дойлідства Вялікага княства Літоўскага ў сярэднявечныя часы. Быў пачынальнікам "гістарычнай археалогіі" у еўрапейскай частцы Савецкага Саюза.

У даследаваннях гісторыі Беларусі сярэднявечнага перыяду ён пачаў актыўна выкарыстоўваць археалагічную навуку. Заслуга Ткачова і ў тым, што культурныя напластаванні XIV-XVIII стст. у нашых старажытных гарадах цяпер не знішчаюцца экскаватарамі. Сёння гэта ўжо агульнапрызнаная галіна сучаснай археалогіі, якая паспяхова развіваецца на Беларусі, Польшчы, Літве, Украіне.

Міхась Ткачоў праводзіў археалагічныя раскопкі ў Гродне і Наваградку, Лідзе і Крэва, Міры і Геранёнах, Мядзелу і Маладзечне, Дрысвятах, Іказне, Браславе і іншых месцах. У другой палове 70-х гадоў XX ст. яго ўвага была скіравана на Усходнюю Беларусь: праводзіліся раскопкі ў Віцебску, Магілеве, Мсціславе, Крычаве, Гомелі, Чачэрску, Прапойску і інш.

У выніку М.Ткачоў пераканаўча паказаў высокі ўзровень абарончай сістэмы і арганізацыі гарадоў і мястэчак Падняпроўя і Паддзвіння. Гэта была рэакцыя на складаныя і небяспечныя адносіны ў XVI-XVIII стст. з суседняй Маскоўскай дзяржавай. Слабая вывучанасць, значныя разбурэнні помнікаў вайсковага дойлідства аб'ектыўна прымушалі М.Ткачова шырока выкарыстоўваць ў сваіх навуковых працах археалагічныя матэрыялы. Але ж ён, як ніхто іншы, змог у сваіх кнігах і артыкулах гарманічна спалучыць археалагічныя дадзеныя з паведамленнямі разнастайных гістарычных крыніц, што дазваляла яму рабіць абгрунтаваныя высновы.

Гісторык, археолаг, крыніцазнаўца, геральдыст – вось непоўны спіс яго талентаў. Галоўная ўвага Міхася Ткачова была накіравана на даследаванне багатай і разнастайнай вайсковай гісторыі Беларусі. На падставе глыбокага аналізу гістарычных, археалагічных і іканаграфічных крыніц М.Ткачоў прасачыў генезіс, эвалюцыю і этапы развіцця замкаў і абарончых сістэмаў населеных пунктаў, а таксама арганізацыю абароны беларускіх гарадоў. Пасля драўляных і драўляна-земляных абарончых канструкцый прыходзяць з другой паловы XIII ст. мураваныя вежы-данжоны (Камянец, Гродна, Брэст, Навагрудак, Тураў) і з XIV ст. — агульнадзяржаўныя замкі-кастэлі (Ліда, Крэва, Меднікі) і шматвежавыя замкі (Гродна, Навагрудак). З канца XV ст. і да XVII ст. інтэнсіўна будуюцца прыватныя замкі (Мір, Геранёны, Іказнь, Мядзел, Любча і інш.), робіцца больш дасканалай фартыфікацыйная сістэма гарадоў (Слуцк, Полацк, Віцебск), з'яўляюцца інкасталяваныя святыні – сваеасаблівыя замкі (Сынкавічы, Мураванка, Супрасль, Полацк).

З сярэдзіны XVI ст. на тэрыторыі Заходняй Беларусі будуюцца замкі еўрапейскага тыпу з сістэмай бастыёнаў (Нясвіж, Заслаўе, Быхаў і інш.). Паводле М.Ткачова, вайскова-манументальнае дойлідства Беларусі ў сярэднявеччы заўсёды адпавядала патрабаванням часу і спрыяла фармаванню прыгожага аблічча беларускіх гарадоў.

У вайскова-інжынерным мастацтве XIV-XVIII стст. ён вылучаў дзве галоўныя рысы: 1) трывалая сувязь з мясцовымі традыцыямі вайсковага будаўніцтва і народнай драўлянай архітэктурай; 2) кантакты і выкарыстоўванне найноўшых дасягненняў у галіне фартыфікацыі Польшчы, Прыбалтыйскіх краін, Чэхіі, Нямеччыны, Нідэрландаў і Італіі. Менавіта праф. Міхась Ткачоў сваёй навуковай дзейнасцю пераканаўча даказаў (яшчэ ў той час!), што Беларусь, яе народ, займаюць роўнае і пачэснае месца сярод іншых еўрапейскіх народаў і краін.

Праф. М.Ткачоў не паспеў выгадаваць сваіх аспірантаў, фармальна стварыць сваю школу. Аднак у яго былі паплечнікі і вучні, неабыякавыя да сярэднявечнай гісторыі і археалогіі — Алег Трусаў, Лявон Калядзінскі, Тацццяна Бубенька, Алесь Краўцэвіч, Ігар Чарняўскі, Генадзь Сагановіч, Андрэй Мяцельскі і інш. Кожнага з іх характарызуюць актыўная патрыятычная і грамадзянская пазіцыя, высокі прафесіяналізм і высокія маральна-этычныя нормы. Менавіта гэтыя асобы шмат у чым сёння вызначаюць развіццё айчыннай медыявістыкі.

**Генадзь Семянчук**



**На здымку: Міхась Ткачоў і яго вучань Г.Семянчук (крайні злева) са студэнтамі ГрДУ імя Янкі Купалы ў час археалагічных даследаванняў Замкавай Гары ў Браславе**

# АДНОЎЛЕНАЕ СВЯТА ГРОДЗЕНШЧЫНЫ



Св. Казімір Ягелончык. Мал. Д.Шульца (1670 г.; касцёл францішканцаў у Кракаве)

**Да 480-годдзя кананізацыі Святога Казіміра**

*4-га сакавіка на Віленшчыне адбыўся традыцыйны святочны кірмаш, які можа толькі старэйшыя людзі ды некаторыя краязнаўцы памятаюць, як літоўскае свята "Казюкас". Прыемна, што гродзенская газета "Биржа информации" у нумары ад 7-га сакавіка б.г. дала падрабязны рэпартаж аб трох святочных днях у нашай гістарычнай старажытнай сталіцы – Вільні, распавяла пра вытокі гэтага свята, каранямі звязанага з гісторыяй ВКЛ, і гісторыяй св. Казіміра – патрона Літвы.*

Каралевіч Казімір, вядомы як Св. Казімір, сын Казіміра IV Ягелончыка – малодшага сына караля Ягайлы. Маці – Альжбета Ракушанка з роду Габсбургаў, а бабка – беларуская князёўна Соф'я Гальшанская, якая дала жыццё усёй дынастыі Ягелонаў. У шматлікай сям'і Казіміра IV (пяць братоў і пяць сясцёр) каралевіч Казімір вызначаўся сваёй рэлігійнасцю і прагай да навукі. Сярод яго выхаваццеляў былі гісторык Я.Длугаш, тэолаг Я.Канта, пісьменнік Ф.Калімах. Нягледзячы на тое, што з 1475 года каралевіч Казімір быў агалошаны спадкаемцам польскай кароны, ён заставаўся вельмі пабожным, жыў сціпла, шмат падарожнічаў па Польшчы і Літоўскай Русі. Неаднаразова наведваў Гродна.

Пэўны час (1481-1483) каралевіч Казімір узначальваў каралеўскую адміністрацыю, а пазней займаўся справамі ВКЛ. Менавіта таму амаль пастаянна жыў у Вільні, вандраваў па жмудзінскіх і беларускіх паселішчах, апекаваўся над хворымі, скалечанымі і адзінокімі старымі. Не дзіўна, што сам захварэў на сухоты і, ведаючы пра смяротную пагрозу хваробы, даў зарок цнатлівасці і самаахвярнасці.

Чарговы раз ён прыехаў на калядныя святы 1483 г. у Гродна, дзе стан яго здароўя стаў крытычным. Астатнія месяцы свайго жыцця каралевіч Казімір правёў у гродзенскім старым замку, дзе і памёр 4-га сакавіка 1484 г. Пахаваны ў каралеўскай капліцы Віленскага кафедральнага сабора.

Св.Казімір пакінуў нам запавет: "Пасля Бога найбольш трэба любіць праўду і справядлівасць". Яго самаахвярнасць і дабрачыннасць атрымалі шырокі розгалас па ўсёй Літве (Літоўскай Русі і Жмудзі), пачалося паломніцтва да яго пахавання, якое было хутка прызнана цудатворным. Ужо ў 1522 г. адбылася кананізацыя гэтай асобы, але булу папы згубілі ў дарозе.

Між тым, найвялікшы цуд, які ўзгадваюць крыніцы, прыпадае на 1518 г., падчас абароны Полацка ад маскоўскага войска. Кароль Жыгімонт Старэйшы – абаронца горада, звярнуўся з малітвай і просьбай аб дапамозе да памёрлага брата – каралевіча і, нечакана, у небе сярод хмар з'явіўся юнак, апрануты ў белае адзенне і на белым кані. Менавіта гэтую легенду адлюстроўвае алтар Св. Казіміра ў фарным касцёле Гродна. Узрушаныя абаронцы Полацка разбілі маскоўскую аблогу і вызвалілі горад.

Існуе і іншая версія гэтай падзеі: адступаючае войска Масковіі фарсіравала Дзвіну і знішчыла сродкі пераправы. Але цудатворнае з'яўленне Св.Казіміра высушыла рэчышча і літоўскае войска бесперашкодна дагнала ворага.

У 1602 г. рымскі папа Клімент VII аднавіў кананізацыю каралевіча Казіміра. З гэтага часу імя Св. Казіміра – "патрона Літвы" традыцыйна адзначалася на ўсёй тэрыторыі, якая зараз падзелена на сучасную Літву і Беларусь. У 1991 г. каталіцкая царква Гродзеншчыны абвясціла Св. Казіміра патронам Гродзенскага біскупства.

Свята Св. Казіміра (ці па нашаму "Казюкі") перад усім як святочнае набажэнства і традыцыйны кірмаш рамеснікаў, было найгалоўнейшым веснавым святам, што папярэднічала Вялікадню. Яно святкавалася на Віленшчыне, Гродзеншчыне, Навагрудчыне, на Палессі. Пасля "прыпынення" свята ў часы Расійскай імперыі, яно шырока адзначалася ў міжваенныя часы. Вільня была эпіцэнтрам свята, куды накіроўваліся шматлікія ўдзельнікі з усіх куткоў Заходняй Беларусі. Старэйшыя жыхары Дісненшчыны ўспамінаюць, што "на Казюка" цягнік ад Глыбокага да Вільні быў бясплатны. Вельмі прыемна, што Саюз палякаў на Беларусі аднавіў традыцыю вясновага кірмашу рамеснікаў.

**А.Дісьнёнак**



**1935 г. Казюкі ў Вільні. Студэнты Віленскага універсітэта на кірмашы. Фота з прыватнага збору Г.Н. Майсяёнка**



**3-га сакавіка 2002 г. (напярэдадні Казюка). Святочны кірмаш на былой Ратушнай плошчы Гродна**

■ *ЖЫЦЦЁ БЕЛАРУСКІХ КРАЯЗНАЎЦАЎ*

# 2. ГОМЕЛЬШЧЫНА: МАЕМ ЗДАБЫТКІ

*У "КГ" (гл. папярэдні нумар) быў надрукаваны допіс нашага аўтара з Гомеля Аляксандра Кузьміча "Гомельшчына краязнаўчая". Прапануем вашай увазе яго чарговы матэрыял.*

Спробы аб'яднаць краязнаўцаў Гомельшчыны рабіліся з канца 80-х гадоў. Тады ў Гомелі было створана абласное краязнаўчае таварыства (старшыня В.А.Літвінаў). Гарадское краязнаўчае таварыства дзейнічае з красавіка 1997 года (старшыня А.С.Кузьміч).

Пік актыўнасці краязнаўчага руху ў Гомелі прыпаў на пачатак 90-х гадоў (1991-1995). Тады было праведзена некалькі навукова-практычных канферэнцый: па гістарычнаму краязнаўству (1989, 1991); народнай духоўнай культуры, дыялектам, тапаніміцы (1992).

Былі апублікаваны наступныя працы: "Гомель. Энциклопедический справочник (1991); А.Ф.Рогалёв "От Гомеюка до Гомеля" (1993); О.А.Макушников " В поисках древнего Гомия" (1994); "Гомельшчына: старонкі мінулага. Частка 1-я" (1992); "Гомельшчына: старонкі мінулага. Частка 2-я" (1996).

Вялікай падзеяй у гісторыі Гомеля стала Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Краязнаўства – аснова духоўнага і маральнага адраджэння грамадства" (снежань 1997). У рамках канферэнцыі працавалі дзве секцыі – "Духоўная культура Браншчыны, Гомельшчыны і Чарнігаўшчыны", "Гістарычнае краязнаўства і этнаграфія".

Вынікам шматгадовай работы стаў выхад у 1998 годзе гісторыка-дакументальнай хронікі "Память. Гомель" у двух кнігах. Супрацоўнікі абласнога краязнаўчага музея ў 2000 годзе надрукавалі зборнік навуковых прац "Краязнаўчыя пошукі". Найбольш цікавымі выданнямі з'яўляюцца: Літвінаў В.А. "Калекцыя пломбаў і пячатак 18-га – 20-га ст. з Гомеля як гістарычная крыніца"; Кузьміч А.В. "Неажыццёулены праект" (аб праекце пуску трамвая ў Гомелі напачатку 20-га ст.); Глушакоў Ю.Э. "Дзейнасць партыі сацыял-рэвалюцыянераў у Гомелі (1902-1917); Кузьміч А.С., Кузьміч А.В. "Краязнаўчы рух у Гомелі ў 20-я гады ХХ-га ст."; Літвінава Т.Ф. "Вуліца Савецкая ў Гомелі – адна са старонак каменнага летапісу Гомеля"; Макушнікава Э.А. "Палітычныя рэпрэсіі на Гомельшчыне ў 1920-1930 г."; Ягорава А.Б. "В.І.Галубок і Я.А.Міровіч на Гомельшчыне (1920-1930).

Цяпер публікацыі па гістарычнаму краязнаўству змяшчае літаратурна-гістарычны і грамадска-культурны часопіс "Палессе", які выдаецца ў Гомелі. Артыкулы па краязнаўству друкуюцца ў альманаху "Ликей" (абласны ліцэй), "Хронос Полесья" (СШ № 56).

**А.Кузьміч, Гомель.**

**(Заканчэнне ў наступным нумары)**

■ *ЗАЗІРНЕМ У КАЛЯНДАР*

# АДАМ, БАЦЬКА МАКСІМА

**Да 140-годдзя з дня нараджэння А.Я.Багдановіча**



Адам (Адольф) Ягоравіч Багдановіч (20.3.(1.4. н.ст.) 1862 – 16.4.1940) нарадзіўся ў Халопенічах (Крупскі р-н). Закончыў Нясвіжскую гімназію. Настаўнічаў, узначальваў пачатковае вучылішча ў Мінску.

З 1892 па 1896 г. працаваў у Гродне служачым Сялянскага банка. Выбіраўся кіраўніком Рады публічнай бібліятэкі. Праводзіў даследаванні па этнаграфіі і фалькларыстыцы. Аўтар успамінаў, у тым ліку і пра сына Максіма – геніяльнага беларускага паэта.

Аўтар прац аб становішчы жанчыны-сялянкі (1886), педагагічных традыцый беларускага народа (1886). У Гродне апублікаваў допіс "Пра паншчыну" (1894). Найбольш вядомая работа — "Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў" (1895), падрыхтаваная па матэрыялах, сабраных у Магілёўскай, Віцебскай і Мінскай губернях, у тым ліку і на Навагрудчыне.




Большасць эпістолярнай спадчыны А.Багдановіча захоўваецца ў архіве акадэмічнага інстытута літаратуры.

У адным з гродзенскіх дамоў, дзе жыла сям'я Багдановічаў, цяпер месціцца музей Максіма Багдановіча.

Неперыядычны бюлетэнь «Краязнаўчая газета»
Выдаецца на беларускай мове. На правах унутранай дакументацыі распаўсюджваецца бясплатна.
Ядрас: 230023 г. Гродна, п/с 22.
Наклад 299 асобнікаў
Ядказны за выпуск Сцяпан Ярашчук
Дызайн і вёрстка Ядам Кір'яцкі
Бюлетэнь дабрачынна падрыхтаваны сябрамі краязнаўчых суполак і аб'яднанняў Гродна і надрукаваны пры падтрымцы Гродзенскага абласнога грамадскага аб'яднання "Ратуша"